


**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 10 (192) — Нядзеля 7 сакавіка 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8

# Пасьля Бэрлінскай канфэрэнцыі

Бэрлінская канфэрэнцыя, як мы ўжо пісалі, бясспрэчна шырака выясьніла сытуацыю ў вачох заходняга сьвету. Яна канчальна разьвеіла небясьпечныя ілюзіі, што пасьля сьмерці Сталіна замежная палітыка Савецкага Саюзу зьмянілася і што апошні быццам зьяўляецца наважаным шукаць мірных шляхоў сужыцьця з Захадам. Яна паказала, што палітыка Крэмля асталася тая самая й нязьменая. Молатаў вельмі груба й нахабна даў да зразуменьня, што Масква згодная толькі на такія «свабодныя» выбары ў цэлай Нямеччыне, якія наперад гарантавалі-б перамогу камуністых, што яна толькі за такое разьвязаньне нямецкага й аўстрыяцкага пытаньня, якое абедзьве гэтыя краіны прывяло-б да няўхільнай савецызацыі. Амэрыканскі міністар замежных справаў Джон Фостэр Дальлес у сваей радыёвай і тэлевізійнай справаздачы з канфэрэнцыі сьцьвердзіў, што Саветы «ня толькі ня думаюць аддаць таго, што маюць у сваіх руках уключна з Усходняй Нямеччынай і Ўсходняй Аўстрыяй, але навет імкнуцца мець яшчэ болей». І тое, што Молатаў быў змушаны раскрыць свае карты, уважае Дальлес за адно з дасягненьняў канфэрэнцыі.

Для нас, навучаных балючым гістарычным дасьветчаньнем, заўсёды было ясным, што ўсё тое, дзе калі-небудзь ступіў маскоўскі бот, Расея ўважае за сваю собскасьць і можа быць сапхнутай адтуль толькі сілай. Той аднак факт, што канчальна ў гэтым пераканаўся й дэмакратычны Захад, і мы ўважаем за найбольшы пазытыўны вынік Бэрлінскай канфэрэнцыі.

Нічога дзіўнага, што пасьля канфэрэнцыі заходнія дзяржавы адразу пачалі рабіць зь яе адпаведныя вывады і ў залежнасьці ад іх актывізаваць, а навет перабудоўваць сваю палітыку. У гэтым аспэкце ў поўнай сваей шырыні сталася цяпер актуальнай справа эўрапэйскай абароннай супольнасьці, якая сталася цяпер цэнтрам увагі ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі й Заходняй Нямеччыны.

Трэба думаць, што калі Дальлес ехаў у Бэрлін, ён ужо з гары мусіў быць пэўным, што вынік канфэрэнцыі ў васнаўным будзе такім, якім ён і быў. Амэрыка, якая даўно пахавала свае ілюзіі аб магчымасьцях дагаварыцца з Савецкім Саюзам, не магла ад гэтай канфэрэнцыі і чакаць нічога іншага, як толькі таго, каб Молатаў «адкрыў свае карты» ня толькі перад дыпляматамі, але й публічнай апініяй сьвету. На колькі такое перакананьне аб Саветах у Амэрыцы ўжо ўстабілізавалася, вымоўна сьветчыць адзін сьвежы факт. Ня гледзячы на тое, што амэрыканскі міністар Дальлес займаў на канфэрэнцыі найбольш станоўчую пазыцыю, часьць сэнатараў і кангрэсмэнаў зрабіла аднак яму войстры закід, што, выказваючы сваю згоду на адбыцьцё Жэнэўскай канфэрэнцыі з удзелам камуністычнага Кітаю, ён гэтым самым зрабіў першы крок да вызнаньня пэкінскага ўраду Мао-Тсэ-Тунга. Праўда, Дальлес катэгарычна асьветчыў, што дапушчэньне чырвонага Кітаю да Жэнэўскай канфэрэнцыі, на якой будуць абгаварвацца выключна карэйскія й індакітайскія пытаньні, ні ў якім выпадку не пацягне за сабой вызнаньня камуністычнага Кітаю. Тым ня меней такая чулая рэакцыя часьці амэрыканскіх палітыкаў і грамадзянства павінна быць уважаная за зьявішча пацяшаючае.

Цікавая й таксама пажаданая рэакцыя на Бэрлінскую канфэрэнцыю была і ў Вялікабрытаніі. Праўда, Чэрчыль не пакінуў яшчэ й цяпер свайго незадачлівага праекту спатканьня з Саветамі на «найвышэйшым шчэблі» і выказаў веру, што Бэрлінская канфэрэнцыя мела і свае ўдачы, бо яна быццам расчысьціла шлях для далейшых гутарак з Саветамі (!?). Аднак тут пацяшаючым зьявішчам была рэвізія палітыкі ангельскіх ляйбарыстых у справе эўрапэйскай арміі й дазбраеньня Нямеччыны. Вось-жа ляйбарыстаўская фракцыя ангельскага парляманту, якая налічвае цяпер 294 дэпутатаў, была раней супраць ратыфікацыі дагавору аб эўрапэйскай арміі, уважаючы, што ратыфікацыя можа адбыцца толькі пасьля таго, калі ўсе спробы дагаварыцца з Саветамі ў справе нямецкай будуць вычарпаныя. Праведзенае ў гэтай справе фракцыяй галасаваньне ў 1952 годзе паказала, што толькі 74 галасы былі за ратыфікацыю, а 97 супраць. Цяпер-жа брытанскія ляйбарыстыя сьцьвердзілі, праўда невялікай бальшынёй, што якраз Бэрлінская канфэрэнцыя й вычарпала гэтыя спробы. Яшчэ перад галасаваньнем у фракцыі лідэр ляйбарыстых Этлі і ягоны заступнік Морысон выказаліся за ратыфікацыяй дагавору, а праведзенае галасаваньне дало за ратыфікацыю 113 галасоў супраць 104.

Горшая сытуацыя ў Францыі. Агульная француская апінія ўважае, што Бэрлінская канфэрэнцыя была вялікім сукцэсам міністра замежных справаў Бідо галоўна з тае прычыны, што пад ягоным націскам на Жэнэўскай канфэрэнцыі будзе абгаварвацца справа спыненьня ваенных дзеяньняў у Індакітаі. З гэтае прычыны аўтарытэт Бідо значна павялічыўся. Бідо і ягоныя аднадумнікі, хаця й пакладаюць вялікія надзеі на Жэнэўскую канфэрэнцыю, аднак уважаюць, што яшчэ перад гэтай канфэрэнцыяй Францыя павінна ратыфікаваць дагавор аб эўрапэйскай абароннай супольнасьці. Ягоныя-ж праціўнікі зьяўляюцца думкі, што ратыфікацыя можа адбыцца толькі пасьля Жэнэўскай канфэрэнцыі, бо ў праціўным выпадку ня ўдасца разьвязаць індакітайскага пытаньня ў духу зычэньняў Францыі. Трэба спадзявацца, што францускае Нацыянальнае Сабраньне дэбатаў над ратыфікацыяй перад Жэнэўскай канфэрэнцыяй, якая распачнецца 26 красавіка, не распачне, тым больш, што апошнімі днямі такое-ж становішча заняў і францускі прэм'ер Ляніель. У кажным выпадку трэба чакаць, што Молатаў у Жэнэве будзе ўсякімі спосабамі намагацца не дапусьціць да ўваходу Францыі ў эўрапэйскую абаронную супольнасьць, а таму некаторыя ўступкі з боку камуністых у справе Індакітаю на карысьць Францыі зьяўляюцца моцна праўдападобнымі.

У Заходняй Нямеччыне правал Бэрлінскай канфэрэнцыі яшчэ больш узмоцніў пазыцыі канцлера Адэнаўэра. Першым адказам на нэгатыўнае становішча Молатава ў нямецкім пытаньні было правядзеньне 26 лютага 334 галасамі супраць 144 у нямецкім парляманьце зьмены канстытуцыі, на падставе якой цяпер Заходняя Нямеччына атрымлівае права ўвесьці прымусовую вайсковую службу для мужчын ад 18 год жыцьця.

Адразу пасьля правалу канфэрэнцыі Адэнаўэр зрабіў спробу ўзгодніць замежную палітыку апазыцыйнай сацыял-дэмакратычнай партыі з палітыкай рэпрэзэнтаванай ім урадавай кааліцыі і для гэтай мэты спаткаўся зь лідэрам апазыцыі др. Оленгаўэрам. Спатканьне не дало ніякіх вынікаў, бо аказалася, што й надалей сацыял-дэмакраты зусім інакш заглядаюцца на справу прылучэньня Нямеччыны да эўрапэйскай арміі й ейнай рэмілітарызацыі, чымся ўважае канцлер. Др. Оленгаўэр 1 сакавіка ў заходнім Бэрліне заявіў, што Бэрлінская канфэрэнцыя зьяўляецца толькі «пачаткам, а не канцом» міжнародных гутарак у нямецкім пытаньні. А таму прылучэньне Нямеччыны да заходняга лягеру і ўваход у эўрапэйскую абаронную супольнасьць, на думку Оленгаўэра, былі-б толькі непераможнымі перашкодамі ў справе задзіночаньня Нямеччыні.

Бэрлінская канфэрэнцыя, паза сацыялістычнымі коламі галоўна Францыі й Нямеччыны, узапраўды пераканала Захад, што з Саветамі звычайнай дыпляматычнай мовай гаварыць нельга. Сталася ясным, што зь імі можна гаварыць толькі сілай і з пазыцыі сілы. Але ці з гэтага перакананьня вольныя народы Захаду зробяць належныя практычныя вывады, гаварыць яшчэ перадчасна. За мала яшчэ Захад здае сабе справу зь сьмяротнай небясьпекі, якая няўхільна паграажае яму з Усходу, і за мала выказвае волі да самаабароны, каб мог здабыцца на патрэбную палітычную станоўчасьць і максімальную мабілізацыю сваіх духовых, матарыяльных і мілітарных сілаў на змаганьне з бальшавізмам.

**Язэп Каранеўскі**

# Абаронная сіла НАТО

Галоўнакамандуючы збройнымі сіламі Атлянтычнага пакту (НАТО) амэрыканскі генэрал Гунтэр і ягоны першы заступнік ангельскі маршал Монтгомэры далі інтэрвю карэспандэнту амэрыканскага тыднёвіка «УС Ньюс энд Ворльд Рэпорт», у якім шырака, канкрэтна й шчыра прадставілі абаронную сілу Атлянтычнага пакту й ягоныя пэрспэктывы абароны Эўропы ў выпадку савецкай агрэсіі. Так як гэтая праблема сяньня зьяўляецца аднэй з найважнейшых, ніжэй мы і пазнаёмім коратка нашых чытачоў з заявамі абодвых ваенных спэцыялістых.

Генэрал Гунтэр сьцьвердзіў, што прагрэс галоўнасьці атлянтычных сілаў быў значна шыбчэйшы, чымся можна было спадзявацца ў мамэнт абыйманьня іхнага камандаваньня ген. Айзэнгаўэрам, аднак павальнейшы, чымся было заплянавана на канфэрэнцыі Атлянтычнага пакту ў Лізбоне. Іхнае разьвіцьцё, а асабліва разбудова стратэгічнага лётніцтва, якое сканцэнтраванае часова ў Вялікабрытаніі й Мароку, праўдападобна затармазілі пляны Крэмля. Зразумела, таксама зьяўляецца магчымым, што не распачаў ён вайны таму, бо верыць у дасягненьне сваей мэты пры помачы толькі халоднай вайны. Атлянтычныя наземныя войскі на цэнтральным адрэзку (50 дывізіяў актыўных і рэзэрвовых) сяньня зьяўляюцца ў два разы больш колькасныя, а ў тры або навет чатыры разы сільнейшыя, чымся былі яны перад трыма гадамі. Яшчэ шыбчэй разьвілося тактычнае і стратэгічнае лётніцтва. Перад шыбкімі амэрыканскімі бамбардавальнікамі Б-47 Саветы былі-б пакуль што безбароннымі. Не абазначае гэта аднак, што Захад зьяўляецца ўжо дастаткова сільны. Наадварот, ён павінен узмацняцца з кажнага гледзішча, тым больш, што знаход Саветамі адказу на амэрыканскія ракетныя бамбардавальнікі паставіў-бы Захад у зусім іншым палажэньні.

Саветы, праўда, ня трымаюць на акупаваных імі тэрыторыях дастатковых сілаў, каб маглі толькі імі перамагчы заходнія сілы на адрэзку цэнтральным і паўдзённым, нельга аднак забывацца аб сатэлітных войсках (каля 70 дывізіяў), вартасьць якіх пачынае шыбка павялічвацца. Трэба таксама помніць і аб тым, што Саветы маглі-б шыбка і незаўважальна перакінуць сваё лётніцтва з глыбіні краіны на захад. У такіх умовах ня ёсьць дастатковым забясьпечаньнем факт, што прывоз большых сілаў наземных з глыбіні Расеі быў-бы напэўна ў час сыгналізаваным. Ці змаглі-б мы напор гэтых масаў затрымаць і перад імвытрываць, залежыла-б, ясна, ад таго, ці прыйшлі-б у час нашыя рэзэрвовыя адзінкі. Не зьяўляецца гэта, на жаль, пэўным. У кажным выпадку маем ужо дастаткова сілаў, каб задаць напасьніку цяжкія страты.

Нашая стратэгія палягала-б перадусім на імкненьні да выйграньня бойкі за панаваньне ў паветры і на каналізаваньні рухаў і масаў няпрыяцеля на сушы з мэтаю павялічэньня эфэктоўнасьці нашага тактычнага атамнага аружжа.

Яшчэ няведама, ці далейшае ўзмацняньне гэтага аружжа, якое бясспрэчна павялічыць у паважнай ступені нашую абаронную сілу, зробіць магчымым зьмяншэньне нашых канвэнцыянальных аддзелаў, ці будзе вымагаць яшчэ большага іхнага павялічэньня. У гэтай галіне ідзём яшчэ папоцемку і мусім лічыцца з эвэнтуальнасьцю частай рэвізіі пагляду.

Саветы маглі-б таксама й цяпер яшчэ выйграць першую фазу вайны, але на даўжэйшую мэту іхнае палажэньне было-б вельмі цяжкім, калі-б перад разьдзьмуханьнем вайны ня зьліквідавалі розных сваіх слабасьцяў. Ідуць яны стала наперад, аднак гэта яшчэ не абазначае, каб у гэтых перагонках час мусіў іграць на іхную карысьць. Калі Захад ня звольніць сваіх высілкаў, вайны можа ня быць. Так як сытуацыя прадстаўляецца сяньня, нашая перавага на моры адыйграла-б вялізарную ролю, між іншым, таму, што давала-б магчымасьць Амэрыцы разьвіць увесь ейны вялізарны патэнцыял. Факт гэты зьяўляецца, невялікай пацехай для жыхароў Амстэрдаму ці Бруксэлі, але ёсьць бясспрэчна адным з тормазаў, што зьвязвае Маскву.

Нельга ня верыць, каб атамнае аружжа ня было ў выпадку вайны ўжытае. На гэтай падставе абапіраем усе нашыя пляны. Калі-б гэтае аружжа, з тых або

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# Пад ціскам чырвонай Масквы

**Бэльгійская штодзенная газэта «Laterne» ў нумары за 18 лютага сёлета зьмясьціла артыкул пад наступным загалоўкам: «Супраць няздольных і нягодных міністраў. Масква хоча страсануць Савецкія Рэспублікі і назначае намесьнікаў, каб забясьпечыць і пашану да эканамічных плянаў. Маршал Цімашэнка назначаны ў бюро КП Беларусі». Паколькі гэты артыкул ў васнаўным гаворыць аб асабліва й выняткава цяжкім палажэньні на Беларусі, ніжэй яго перадрукоўваем поўнасьцю.**

**Рэдакцыя**

✶

На апошнім кангрэсе камуністычных партыяў розных савецкіх рэспублікаў, якія адбыўся ў гэтым месяцы, былі аб'ектам ганебнай крытыкі ўсе неспрактыкаваныя міністры й нягодныя ўрадаўцы.

Падобныя крытыкі былі перададзеныя менскай радыястанцыяй або радыястанцыямі іншых савецкіх гарадоў.

Радыяперадачы на днях паведамілі, што армянскі міністар лесу й папяровай прамысловасьці Вошгянаў аказаўся няздольным кіраваць сваім міністэрствам. Таварыш Вошгянаў, — передавала радыястанцыя — брутальна нарушыў дзяржаўную дысцыпліну, ён выдаў некалькі самавольных пастановаў, часта із злой воляй. Тая самая радыястанцыя абвінавачвала палавіну міністраў індустрыі каўхаскай рэспублікі, якія не дасягнулі вызначанага пляну прадукцыі.

Менская радыястанцыя абвінаваціла Катаводава, міністра гандлю Беларускай Рэспублікі, што ён зьяўляецца ў першую чаргу адказным за ўсе недахопы ў разьвіцьці гандлю гэтае рэспублікі. На кангрэсе камуністычнай партыі Беларусі былі войстра крытыкаваныя вышэйшыя ейныя кіраўнікі за няздысцыплінаванасьць у фінансавых пытаньнях.

Менская радыястанцыя прадаўжала: «У вакруговых камітэтах Магілёва, Горадні й Маладэчна часьць бюджэту была прысьвечаная на інсталяцыю тэлефонаў у кіраўнічых установах партыі.» Другі закід, які здаецца занепакоіў камуністых Беларусі, гэта недахопы ў выдаваньні партыйных дакумэнтаў і губляньні партыйных білетаў, што паўтараецца даволі часта. Заклікаючы да трэзвасьці й яшчэ большага пачуцьця адказнасьці, менская радыястанцыя заклікала да выконваньня загадаў Масквы ў справе супрацьдзеяньня ўмешваньню варожага ўлемэнту.

### БРУТАЛЬНЫЯ МЕРЫ

Пляны адносна транспарту, будовы, разбудовы некаторых інстытуцыяў лекарскіх і гігіены дзяцей былі выкананыя недастаткова. У некаторай меры міністэрствы не дастаткова дагледзілі справу адміністрацыі плянаў разбудовы. Былі асаблівыя выпадкі, калі міністэрствы сельскай гаспадаркі, культуры, мясцовай прамысловасьці і цэнтральныя арганізацыі для будовы недастаткова выканалі свае пляны.

Лёнданскія знатакі савецкіх праблемаў уважаюць, што кампанія крытыкі, накіраваная ў першую чаргу супраць важнейшых эканамічных арганізмаў, абазначае, што Масква пастанавіла прыняць усе неабходныя, хоць і брутальныя, меры, каб палепшыць як савецкую індустрыю, гэтак і сельскую гаспадарку і асягнуць абсалютную паслухмянасьць у розных савецкіх рэспубліках.

### НАЗНАЧЭНЬНІ

Каб замацаваць паслухмянасьць Маскве, пастаноўлена выслаць у некаторыя рэспублікі з цэнтру харобрых прадстаўнікоў Крэмля. Гэтак Сяргей Ігнацьеў, сябра прэзыдыюму партыі, назначаны першым сакратаром камуністычнай партыі Башкірыі. Слаўны маршал Сымон Цімашэнка назначаны ў бюро камуністычнай партыі Беларусі. Генэрал Іван Бамагрыян назначаны ў бюро КП Латвіі. Іншыя намінацыі мелі на мэце паслаць людзей Крэмля ў другарадныя пункты рэспублікаў.

Гэтыя намінацыі асабліва важныя ў выпадку Беларусі.

Да гэтага ўсяго яшчэ неабходна дадаць тое, да чаго лёнданскія знатакі савецкіх праблемаў не маглі дакапацца.

Калі мы глянем на гэтую праблему з гледзішча савецкага, дык пабачым, што тут справа ня ў тым, каб разьвіваць культуру, індустрыю й сельскую гаспадарку рэспублікаў. Гэта ня што другое, як туман камуністычнай прапаганды, каб зацьміць запраўдную маскоўскую работу. Усё мастацтва савецкай тактыкі заключаецца ў тым, каб як найлепш эксплуатаваць, нішчыць нацыянальны элемэнт, што абазначае вылюдняць рэспублікі, а ў першую чаргу беларускую.

Сёлета Масква пачынае вылазіць із скуры, нападаючы на няздольных міністраў і нягодных урадаўцаў, тады калі яшчэ летась гэтая самая Масква ня прыймала на высокія становішчы нікога іншага, як праступнікаў і крыміналістых. Той меў большае права стацца міністрам ці высокім урадаўцам, хто зрабіў у жыцьці больш праступкаў ці хто даўжэй праседзіў у турме. А тых, што ўзапраўды адказвалі на гэтыя становішчы, Масква нішчыла бязь ніякай літасьці.

Дык паўстае пытаньне, чаму сяньня Масква пачынае крычаць супраць няздольных і нягодных, тады калі яшчэ ўчора іх расхвальвала? Адказ на гэтае пытаньне вельмі просты: таму што Масква вынішчыла ўжо ўсіх тых здольных і высокаякасных. Дык цяпер прыбліжылася чарга і на злыдняў, як гаворыць прыказка: насіў воўк, панесьлі й воўка.

Дык у суме гэта ўсё ня што другое, як плянавае вынішчэньне Масквой рэспублікаў, а ў першую чаргу беларускай рэспублікі.

**Пераклаў Т. М.**

### ПАПЯРЭДЖАНЬНЕ

**Некаторыя кальпартэры нашай газэты й кніжак Выдавецтва «Бацькаўшчыны», ня гледзячы на неаднаразовыя нашыя просьбы й напамінаньні, ня толькі не зьвярнулі нам дагэтуль выручаных грошаў і ня толькі не правялі неабходнага з намі разьліку, але навет нічога нам на гэта не адказалі. Вось-жа папераджаем, што калі на працягу аднаго месяца гэты разьлік з намі ня будзе праведзены, мы будзем змушаныя ўжо ў нумары «Бацькаўшчыны» за 4 красавіка 1954 г. іхныя прозьвішчы падаць да публічнага ведама і нерайсьці на шлях грамадзкага спагнаньня.**

**Гэтае-ж самае датычыць і індывідуальных падпішчыкаў «Бацькаўшчыны», якія збылі маўчаньнем нашую просьбу правесьці з намі разьлік.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

### КРЫМ ПРЫЛУЧАНЫ ДА УКРАІНЫ

**Пастановай Вярхоўнага Савету СССР з 19. 2. 1954 г. паўвостраў Крым, які раней быў аўтаномнай татарскай савецкай рэспублікай, а пасьля ліквідацыі ў ім татарскага насельніцтва быў прылучаны да РСФСР, як ягоная акруга, быў прылучаны да Ўкраінскай ССР. Матывамі гэтага мерапрыемства падаюцца гаспадарскія прычыны, цесная культурная сувязь Крыму з Украінай і геаграфічныя прычыны. У афіцыяльным паведамленьні падаецца, што пераданьне Крыму УССР зьяўляецца «прыязным актам, доказам бязьмежнага даверу і любові расейскага народу да ўкраінскага народу».**

# Канфэрэнцыя у справе акадэмічнай свабоды у СССР

**(АД АМЭРЫКАНСКАГА КАМІТЭТУ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ АД БАЛЬШАВІЗМУ)**

Група актыўных былых падсавецкіх эміграцыйных навукоўцаў падала праект адбыцьця ў горадзе Нью Ёрку канфэрэнцыі ў справе акадэмічнай свабоды ў СССР.

Канфэрэнцыя мае быць зарганізаваная пад назовам: **«Акадэмічная свабода ў СССР як загроза для бальшавіцкай тэорыі й практыкі».**

Тэрмін для адбыцьця канфэрэнцыі вызначаны на суботу й нядзелю 3-4 красавіка 1954 году ў памяшчэньні новага дому Carnegie Endowment for International Peace, паложаным у Нью Ёрку пры пляцы Задзіночаных Нацыяў і 46-ай вуліцы.

Прадстаўнік Арганізацыйнага Камітэту, да якога ў дадзены мамэнт належаць навукоўцы з паміж эмігрантаў многіх народаў пад Саветамі, заявіў, што дадзеную канфэрэнцыю трэба адбыць з дзьвюх галоўных прычынаў:

Папершае, канчальна трэба разьвеіць усякія ілюзіі, якія пашыраюць камуністыя і іхныя прыхільнікі, пра тое, што, быццам, і ў Савецкім Саюзе існуе бязь перашкодаў ды навет падтрымліваецца акадэмічная свабода ў разьмерах, якой яна ёсьць ведамай у Задзіночаных Штатах Амэрыкі ці ў іншых частках вольнага сьвету.

Фактычная беспадстаўнасьць такой ілюзіі зьвязаная з другой галоўнай прычынай канфэрэнцыі. Яна мае паказаць, што ў Савецкім Саюзе наагул няма акадэмічнай свабоды або толькі дзесьці нязначнай мерай, і гэта таму, што як-бы яна існавала, дык яна вытварала-б паважную загрозу для бальшавізму, бо выясьняла-б і выкрывала-б хвальшывыя падставы тэорыі бальшавізму або запярэчвала-б мэтоды, на якіх бальшавікі абапіраюць сваю ўладу ў Савецкім Саюзе і праводзяць акцыю ў шырокім сьвеце.

Такім чынам былыя падсавецкія навукоўцы, што будуць прыймаць удзел ў канфэрэнцыі, могуць сьцьвердзіць на падставе собскага дасьветчаньня, што ў пераважнай меры няма й мовы аб свабодзе ў акадэмічных досьледах савецкай навукі.

Прапанаваная канфэрэнцыя прадбачыць тры асобныя сэсіі на працягу двух дзён. Першыя дзьве сэсіі будуць адбывацца ў суботу 3 красавіка перад паўднём і па паўдні. Яны будуць прысьвечаныя дыскусіі ў справе акадэмічнай свабоды ў Савецкім Саюзе супраць «ўласнай навукі», а таксама супраць «сацыяльных навук».

Апошняя сэсія прысьвечная на нядзелю па паўдні і ў ейнай праграме пастаўленае будзе пытаньне пра гуманітарныя навукі пад савецкім рэжымам.

Згодна з пастановай Арганізацыйнага Камітэту на гэтай апошняй сэсіі пытаньні будуць разглядацца на падставе агульных савецкіх паглядаў на справу, а таксама з гледзішча на пазыцыі розных нацыянальных групаў, што жывуць пад Саветамі, як яны заглядаюцца на гэтыя пытаньні.

Прамоўцы й сябры паасобных камісіяў ужо былі выбраныя. Іхныя прозьвішчы хутка будуць абвешчаныя. Апрача супрацькамуністычных навукоўцаў, якія паходзяць з падсавецкай эміграцыі, Арганізацыйны Камітэт запрасіў на канфэрэнцыю таксама выдатных амэрыканскіх прафэсараў і вучоных, каб прынялі ўдзел як старшыні або сябры камісіяў падчас усіх трох сэсіяў канфэрэнцыі.

Пры выбары былых падсавецкіх навуковцаў Арганізацыйны Камітэт трымаўся прынцыпу, каб падабраць такіх удзельнікаў, якія маюць вызнаныя акадэмічныя дасягненьні, пры тым была зьвернутая ўвага й на час, на працягу якога той ці іншы вучоны змушаны быў працаваць сярод небясьпечных абставінаў у розных абмежаваньнях бальшавіцкага рэжыму.

Плян канфэрэнцыі ўкладае і ўсей працай канфэрэнцыі будзе кіраваць зусім незалежна самастойны Арганізацыйны Камітэт, які быў створаны для гэтай мэты з вучоных эмігрантаў у Нью Ёрку.

Інстытут для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР, які знаходзіцца ў Нямеччыне ў Мюнхэне, запрапанаваў пакрыць фінансавыя выдаткі. Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму, што памагае Інстытуту ў Мюнхэне, паддзержывае будучую канфэрэнцыю, бо пераконаны, што на нарадах гэтай канфэрэнцыі будуць пададзеныя матарыялы высокай вартасьці, што іх можна будзе мэтазгодна выкарыстаць у змаганьні супраць бальшавізму.

Агульная справаздача з канфэрэнцыі будзе выдадзеная асобнаю кніжкаю і разасланая выдатным вучоным і навуковым інстытуцыям заходняга сьвету, а паведамленьні з прабегу будуць перадавацца цераз радыястанцыю «Вызволеньне» рознымі мовамі падсавецкіх народаў.

# Палякі аб сабе

Пацяшаючым ёсьць зьявішча, што некаторыя польскія эмігранты, пераважна ў ЗША, пачынаюць узыходзіць на шлях рэалістычнай палітыкі і бачыць былую Польшчу зь перад апошняй сусьветнай вайны, а таксама й ейную экстэрмінацыйную палітыку ў дачыненьні да Беларусаў так, як яно было ў запраўднасьці. Нядаўна на балонах нашае газэты мы абгаварылі артыкул Юрага Болешчыца Закшэўскага «Аб мінуўшчыні Польшчы на Ўсходзе», зьмешчаны ў «Дзеньніку Чыкагоўскім», у якім аўтар здабываецца на адвагу вызнаць правы Беларусаў і Ўкраінцаў на іхныя заходнія землі, што ўваходзілі ў склад перадваеннай Польшчы. Ніжэй перадрукоўваем адрывак з артыкулу Яна Погожэльскага «Санацыйныя выбары», зьмешчаны ў амэрыканскім «Дзеньніку для вшысткіх» за 2. 1. 1954 г., у якім даецца згодная з запраўдным станам ацена польскіх парлямантарных выбараў пры Пілсудзкім. Газэта піша:

«Прыпомнім аднак Цату (ведамы польскі публіцысты — Рэд.), як былі праведзеныя выбары ў Польшчы ў тых трынаццацёх гадох і як асьмешвалі Польшчу заграніцай санацыйныя выбарныя практыкі. Яўнае выбарнае надужываньне з выбарнымі урнамі ў Кобрынскім павеце ў 1930 г., паводля санацыйнага штодзеньніка «Дзень Добры», прыняло ўдзел у выбарах звыш 100», што мелі права галасаваньня; таталітарны спосаб вядзеньня галасуючых на чале з аркестрамі да выбарных урнаў, разьбіваньне пад ахаронай паліцыі передвыбарных сабраньняў, арыштоўваньне напярэдадні выбараў мужоў даверу апазыцыйных выбарных сьпіскаў, разьбіваньні выбарных памяшчэньняў на вачох дыпляматычных прадстаўнікоў заходніх дзяржаваў, неразгляданьне на працягу цэлых гадоў выбарных пратэстаў Найвышэйшым Судам, а напасьледак клясычны ўзор усіх таталізмаў, адзін выбарны сьпісак у 1935 і 1938 годзе. Напасьледак дэкрэт Складкоўскага, які інтэрпрэтаваў канстытуцыю з 1935 году такім спосабам, што грамадзянін ня толькі мае права ўдзелу ў галасаваньні, але й мае абавязак галасаваць, меў стэрарызаваць грамадзянства і пагнаць да галасаваньня на адзіны дзяржаўны сьпісак.

Як цынічна разумела санацыя грамадзянскую вольнасьць у дачыненьні да выбараў, найлепей сьветчыць інтэрвью Медзінскага зь Язэпам Пілсудзкім, які гэтак абазначыў свае дачыненьні да выбараў у 1930 годзе: «Натуральна, спадар і ўсе могуць лёгка зразумець, што я, як і ўсе тыя, што сьцісла із мною супрацоўнічаюць, прайграць ня можам, гэта значыць, што немагчымасьцю ёсьць прыпушчаць, каб соймаўладзтва ці паслаўладзтва ў Польшчы магло перамагчы разам із сваёй сувэреннасьцю якім-небудзь спосабам. Справа мною пастаўленая на выбары ня можа палягаць на якойсьці магчымасьці прайграньня з майго боку».

Берут напэўна можа падпісацца пад гэтым інтэрвью, бо і ў ягонай дэмакратычна-народнай сыстэме якія-небудзь выбары ня могуць палягаць на магчымасьці прайграньня.

Якая існуе пэўнасьць, што санацыйныя недабіткі ня будуць ставіць справы такім спосабам, што ня могуць прайграць гэтых выбараў?»

### АДКАЗЫ РЭДАКЦЫІ

**Сп. М. С. у Аўстраліі:** Вашую карэспандэнцыю аб Першым Зьезьдзе БАПЦ у Аўстраліі, які адбыўся 26 і 27 сьнежня 1953 году, мы атрымалі толькі 3 сакавіка 1954 году, г. зн. пасьля двух месяцаў і аднаго тыдня. З гэтае прычыны карэспандэнцыі Вашай зьмясьціць ня можам.

**УВАГА! УВАГА!**

### ГАДАВІКІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» Й «КАЛАСКОЎ»

**З Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» можна выпісаць:**

**1. Поўны камплет «Бацкаўшчыны» за 1953 год (не апраўлены) за 4 амэрыканскія даляры, або іхную раўнавартасьць у іншай валюце.**

**2. Поўны камплет «Бацькаўшчыны» за 1952 год (не апраўлены) за 4 амэр. даляры.**

**3. Поўны камплет «Бацькаўшчыны» за 1951 год (№№ 65-79) за 2 амэр. даляры.**

**4. Камплет «Каласкоў» ад нумару 4 да 20 ўключна (№ № 1, 2 і 3 друкаваліся, як 3-яя балона «Бацькаўшчыны») за 1952-1953 г.г. (у цьвёрдай вокладцы) за 2,5 амэр. даляры.**

**Так як успомненых камплетаў Рэдакцыя мае вельмі малую колькасьць, жадаючым іх атрымаць радзім сьпяшацца з выпіскай.**

### ШУКАЮЦЬ

**Шпакоўскую Марыю** із сям'ёй, якая пражывала ў лягеры для безьдзяржаўных чужынцаў у Ляндсгуце да 1949 году, а пасьля выэміґравала ў Амэрыку, шукае Ганна Цэльлер. Весткі слаць на адрас:

Rosenheim, Äußeremünchenerstr. 7.

### НА ФОНД БЕЛАРУСКАЙ КНІЖКІ

**(Працяг)**

**17. Падпісны ліст № 20, зьбіральнік а. Ч. Сіповіч.** На гэты ліст 10 чалавек, якія пажадалі не называць іхных прозьвішчаў, зложылі разам: **1 ангельскі фунт, 17 шылінгаў.**

**18. Падпісны ліст № 4, зьбіральнік сп. Ф. Кушаль:** 1. Ф. Кушаль — 2 амэр. даляры, 2. Н. Кушаль — 3 дал., **разам — 5 амэр. даляраў.**

**19. Падпісны ліст № 8, зьбіральнік сп. Донат Яцкевіч:** 1. А. Гавенчык — 3 аўстр. фунты, 2. Юры Яцкевіч — 2, 3. Данат Яцкевіч — 1, 4. Альбэрт Кадняк — 3, 5. Альбэрт Кадняк — 10 шыл.; **разам 9 фунтаў 10 шылінгаў.**

**20. Падпісны ліст № 8а, зьбіральнік сп. Ф. Дарэўскі:** 1. А. Бразоўскі — 1 фунт, 2. А. Аляксандраў — 10 шыл., 3. М. Лейка — 10 шыл., 4. Міхновіч — 10 шыл.; **разам 2 аўстр. фунты 10 шылінгаў.**

Усім, што далі складкі на Выдавецкі Фонд Беларускай Кніжкі, як і паважаным зьбіральнікам складак, шчырае беларускае дзякуй.

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Ад „скураной труны“ да атамнай падводнай лодкі

Дня 21 студзеня ў горадзе Гротон (ЗША), у прысутнасьці 20.000 гледачоў, была спушчаная на ваду першая атамная падводная лодка «Наўцілюс». Яе «хрэснай маткай» была жонка прэзыдэнта Айзэнгаўэра. Цяпер пачынаецца выпрабаваньне гэтай першай падводнай лодкі, парушанай атамнай энэргіяй. Як заявіў адмірал Карнэт, «Наўцілюс» можа запачаткаваць новую эпоху ў марапляўстве. У ліпені сёлета будзе гатовая другая атамная падводная лодка — «Морскі воўк». Брытанцы із свайго боку выпрадукавалі падводную лодку, якая можа пераплысьці з Ангельшчыны ў Аўстралію або Новую Зэляндыю, не выплываючы на паверхню і не папаўняючы свайго запасу паліва.

У сувязі з гэтымі, бясспрэчна эпахіяльнымі, вынаходамі, варта прыпомніць кортка гісторыю, якую прайшла падводная лодка ад прымітыўнай г. зв. «скураной труны» да найбольш мадэрнай атамнай падводнай лодкі.

За панаваньня ангельскага караля Якуба I, у гадох 1620—1625 ягоны прыбочны лекар, Галяндзец др. Корнэльюс ван Дрэбэль зрабіў вынаходніцтва лодкі, якая магла заныраццa й плысьці пад вадой. Гэтая лодка, у форме дзераўлянае скрынкі абцягнутай натлушчанай скурай, вельмі мала й чым магла прыпамінаць нядаўна спушчаную на ваду ў Амэрыцы першую атамную падводную лодку «Наўцілюс»; тым ня меней удалося гэнаму вынаходліваму галяндзкаму лекару й фізыку праплысьці пад вадой у сваей лодцы — «скураной труне» ад Вэстмінстэру да Грынвічу. Ідэя ван Дрэбэльса была падхопленая галяндзкай марынаркай, каб пры помачы «скураной труны» затапіць варожыя караблі ў порце Дункірхэн. Аднак ад таго часу мусіла яшчэ прайсьці роўна 150 год, пакуль сталася магчымая ўзапраўдная першая падводная атака.

У часе амэрыканскай вайны за незалежнасьць, калі Ангельцы заблякавалі Нью Ёрк, пабудаваў Давід Бушнэль сваю «Тартль» («Чарапаху»), падводную лодку, парушаную нагамі і з камэрай для выраўнаньня цяжкасьці. Знайшоўся адзін харобры адважнік, які ў гэтай прымітыўнай падводнай лодцы даплыў ноччу да брытанскай фрэгаты «Ігль» («Арол»), каб залажыць гадзіньнікавую міну. Але плян у вапошнюю мінуту ня ўдаўся: слабы сьвідар ня змог прадзюравіць пакрытай медзьдзю сьцяны фрэгаты.

Цьверць стагодзьдзя пазьней, у 1801 годзе, быў на рахунак Нополеона спушчаны на ваду аднаіменьнік Вашынгтонскага атамнага «Наўцілюса». Гэта быў «Наўцілюс» Джэмса Фальтона — мэталёвая падводная лодка. Зблiжаную да гэтай лодку сканструаваў у палавіне дзевятнаццатага стагодзьдзя адзін баварскі падахвіцэр Карль Баўэр. Ягоны «запальны нырок» знайшоў у Пецярбургу прызнаньне й грошы. Аднак Расейцы зусім ня думалі ўжываць вынаходніцтва Баўэра ў ваенных мерапрыемствах; замест гэтага адбыўся ў пецярбурскім порце «падводны канцэрт».

Першы падводны ўзрыў адбыўся ў 1863 годзе, калі напалавіну падводная лодка сканфэдэраваных з паўночнаамэрыканскага порту Чарльстон выпусьціла свайго роду тарпэду і пашкодзіла найсільнейшы карабель таго часу «Нью Айронсайд». Год пазьней была затопленая такой тарпэдай паўночнаамэрыканская карвэта «Гаўзатонік». Першая падводная лодка, парушаная электра-маторам, была пабудаваная на пераломе апошніх стагодзьдзяў паводля плянаў ірляндзкага вучыцеля Джона Голянда. Яе выкарыстоўвала амэрыканская ваенная марынарка. Першая нямецкая пробная падводная лодка «Форэльле» (16 тонаў водазьмяшчэньня) была ў 1902 годзе спушчаная на ваду ў Крупп-Гэрманія вэрфі ў Кіль. Лодка ледзьве зьвярнула на сябе ўвагу толькі пры Вільгэльме II, была аднак потым купленая расейскай марынаркай.

У першую сусьветную вайну за найвялікшае дасягненьне 180 нямецкіх падводных лодак, якія Немцы тады мелі, уважалася затапленьне падводнай лодкай «V-9» пад камандваньнем капітана Вэдынга трох брытанскіх панцырных крэйцараў: «Авоўкір», «Гоодж» і «Крэсі». Згодна пастановаў Вэрсальскага трактату Немцам было забаронена будаваць падводныя лодкі. Пасьля прыходу да ўлады Гітлера, які перастаў ушаноўваць Вэрсальскі дагавор, была ў верасьні 1935 году ў Кіль пакліканая да жыцьця першая флятыля падводных лодак. У другой сусьветнай вайне прыймала ўдзел ужо 820 нямецкіх падводных лодак. Гэта былі ў першую чаргу разьвітыя тыпы падводных лодак зь першай сусьветнай вайны. У выніку другой сусьветнай вайны 781 нямецкая падводная лодка была затопленая разам з 32.000 чалавек абсады. Імі, аднак, было затоплена 200 ваенных караблёў і 15 мільёнаў бруто-тонаў гандлёвых караблёў.

У 1944 годзе была распачатая будова падводных лодак тыпу «Вальтэр», якія паказалі зусім новыя шляхі разьвіцьця падводных лодак. Калі найшыбчэйшыя дагэтуль падводныя лодкі маглі разьвіваць пад вадой 16 морскіх міляў у вадну гадзіну на працягу абмежаванага часу, падводная лодка «Вальтэр» разьвівала 24 морскія мілі. Падобна да гэтай сканструаваная брытанская «Дзіва-падводная лодка» мае пераплысьці з Ангельшчыны ў Аўстралію бяз выплываньня на паверхню.

Амэрыканская атамная падводная лодка «Наўцілюс» (кошты будовы 55 мільёнаў даляраў) атрымлівае цяпло для паравой турбіны ў спэцыяльнай атамнай печы, якая «аграецца» уранам 235. Шыбкасьць яе выносіць 30 морскіх міляў у гадзіну. Радыюс дзеяньня яе мае быць амаль неабмежаваны, у практыцы аднак будзе залежыць ад фізычнай вытрываласьці абсады. Дзеля гэтага падводная лодка «Наўцілюс» збудаваная з усякім камфортам: яна мае спэцыяльныя выгодныя ложкі з гумовымі матрацамі, машыны да мыцьця й сушэньня, асьветленыя люстры для галеньня, асобную залю для яды і, навет, кіно.

# Фінская лекцыя...

**(Заканчэньне з 3-ай балоны)**

шмат іншых, што чырвоная армія ў васнове аслабленая вынішчэньнем тысячаў ахвіцэраў, уключна з многімі найвышэйшых рангаў у «вялікай чыстцы». Ён думаў, што расейскі ахвіцэрскі корпус узмоцніўся. Таксама ня верыў у тое, што палітычныя камісары чырвонай арміі зьяўляюцца жаралом ейнае слабасьці. Праўда, што яны ўмешваліся да загадаў, выдаваных камандзірамі, але вельмі часта яны выводзілі ваякаў часьцінаў зь бязвыхадных становішчаў.

Калі-б Гітлер быў спытаў, не «чаму Фіны ёсьць такія сільныя?», замест спытаць «чаму Расейцы такія слабыя?», з адказу ён даведаўся-б, што гібкая, рухлівая стратэгія Маннэргайма была аднэй із прычынаў слабасьці Расейцаў.

Калі на пачатку вайны Немцы пераможна ўвайшлі на савецкія тэрыторыі, для Фінляндыі прыйшла нагода аднавіць страчанае ў «Зімовай вайне». Але Маннэргайм, маючы вялізарны ўплыў сярод свайго народу, змог стрымоўваць і тармазіць гэтыя настроі.

### АБМЕЖАВАНЫЯ МЭТЫ

Аднак калі стары вораг даканаў некалькі паветраных нападаў на фінскія гарады, Фінляндыя ўзноў уступіла ў вайну. Наўсуперак прэсіі Немцаў, Фінляндыя абмежавалася толькі да прыўярненьня ўтрачанай фінскай тэрыторыі і заняцьця некалькіх, стратэгічна важных, пазыцыяў за сваімі межамі і не прадаўжала прасоўваньня на расейскую тэрыторыю.

Яшчэ адну навуку трэба запамятаваць з кнігі Маннэргайма, пайменна: «Калі нацыя зьяўляецца прымушаная ваяваць, яна мусіць мець азначаную й абмежаваную мэту ў гэтай вайне». Маннэргайм быў супраць ідэялёгічных войнаў, якія ня маюць межаў ні ў часе, ні ў прасторы.

Апаражаньне Нямеччыны вызначыла й апаражаньне Фінляндыі, але яна ўзноў зумела падпісаць мір на ўмовах, хоць і цяжэйшых, чымся пасьля «Зімовай вайны», але такіх, якія далі ёй магчымасьць захаваць сваю незалежнасьць.

Маннэргайм заканчвае сваю кнігу славамі, якія ёсьць павучальнымі для ўсіх народаў, якія любяць свабоду і незалежнасьць:

**«Калі мы трымаемся праўды ў усіх выпрабаваньнях долі, калі мы задзіночаныя і няўступлівыя, калі мы абапіраемся на веру бацькоў нашых і любоў да нашай краіны, калі мы наважаныя сябе абараняць аддана і да канца; — тады фінскі нрод можа глядзець у сваю будучыню із спакойным даверам».**



## Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Lašuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Jurio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
b) **Mr. L. Pašynkouski,** 60 Stawell St. Burnley, Melbourne, Vic., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
**Mr. M. Racycki,** 111 Lindsey Ave, Toronto, Ont.
b) **Mr. Franz Hankievich,** 3701 St. Dominique St., Montreal, Q.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec, 2502 W. 7. St.,** Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у паасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў просім усіх нашых Прадстаўнікоў выручаныя за газэту грошы, як і за выдадзеныя «Бацькаўшчынай» кніжкі, перасылаць на адрас нашага фінансавага Прадстаўніка ў Бэльгіі:**
Janka Žučka, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.